

ОРГАН БЕЛАРУСКАИ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")
Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK
Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H. München 8, Rosenheimerstr. 46 a.
Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA" München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 39 (118) Нядзеля 28 верасьня 1952 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 6

# Ці магчымы новы Ціта?

Той наіўны самаабман заходняга сьвету, што на ўзор Югаславіі, пры адпаведным палітычным і гаспадарскім ціску Захаду, а так-жа пры помачы прапаганды можна будзе й іншыя сатэлітныя краіны адарваць ад савецкага блёку, не разьвеіўся яшчэ й сяньня. Яшчэ й сяньня падносяцца галасы, што тое, што сталася перад некалькімі гадамі ў Югаславіі, магчымае ёсьць таксама ў Польшчы, Мадзяршчыне ці Баўгарыі, не гаворачы ўжо пра камуністычны Кітай. Гэтак калі рэспубліканцы ў сваей перадвыбарнай прапагандзе загаляпаваліся ў прапагаваньні палітыкі вызваленьня й калі пад націскам контраргумэнтаў дэмакратычнай партыі трэба было ясна спрэцызаваць пытаньне, як яны гэтае вызваленьне ўяўляюць на практыцы, дык некаторыя, навет выдатныя амэрыканскія палітыкі пачалі паклікацца на прыклад цітаўскай Югаславіі.

Палітычны дараднік Айзэнгаўэра й кандыдат на міністра замежных справаў ЗША ў выпадку перамогі рэспубліканцаў, Джон Фостэр Даллес, у сваім радыё-інтэрвью 12. 9. 52 заявіў, што ні Айзэнгаўэр, ні ён сам, гаворачы пра палітыку вызваленьня, ніколі ня мелі на думцы ані ваеннага крыжовага паходу супраць Савецкага Саюзу дзеля вызваленьня паняволеных ім народаў, ані сьцідваць за зялезную заслону аружжа й выклікаць там збройныя паўстаньні, якія скончыліся-б толькі масавым вынішчэньнем гэтых народаў, калі-б ня было адначасна ваеннай акцыі з боку заходніх дзяржаваў. Адзіным мэтадам і сродкам гэтага вызваленьня мае быць, на думку Даллеса, каб, за прыкладам Югаславіі, што раз новыя паняволеныя нацыі адрываліся ад засягу ўплываў Масквы й прылучаліся да вольнага сьвету. Сродкамі такой палітыкі маюць быць амэрыканскія радыёперадачы й гаспадарскі ціск. І так як ЗША мелі дагэтуль плянаваньне гарачай вайны, мусяць цяпер стварыць таксама плянаваньне халоднай вайны.

Такім самым прыхільнікам цітаізму, як мэтаду вызваленьня паняволеных народаў, зьяўляецца таксама выдатны й уплывовы амэрыканскі публіцысты В. Ліпманн. Лёгіка ягонага разважаньня наступная: У таталітарных рэжымах бунт масаў супраць дзяржаўнае ўлады зьяўляецца немагчымым і мог-бы выклікаць толькі непатрэбны разьліў крыві. Але прыклад Ціты паказаў, што зьяўляецца магчымым бунт сатэлітнага рэжыму супраць Савецкага Саюзу. Ён уважае, што калі гэта ўжо раз было магчымым у Югаславіі, дык чаму ня мае быць магчымым у любой іншай сатэлітнай краіне? А дзеля гэтага «палітыка Атлянтычнай супольнасьці павінна заняцца перадусім стварэньнем умоваў, якія-б зрабілі цітаізм практычным і карысным разьвязаньнем для сатэлітаў і для Кітаю».

Цяжка паверыць, каб такія аўтарытэтныя людзі, як Даллес, сур'ёзна верылі ў тое, аб чым сяньня яны гавораць. Нам здаецца, што іхныя заявы аб магчымасьці адарваньня, на ўзор Югаславіі, ад Савецкага Саюзу іншых сатэлітных дзяржаваў маюць на мэце ўспакоіць публічную апінію як у Амэрыцы, гэтак і ў Заходняй Эўропе, якая моцна ўстрывожылася ў сувязі з рэспубліканскім заклікам да палітыкі вызваленьня, і болей нічога.

Чаму сяньня зьяўляецца немагчымым паўтарэньне таго, што сталася перад некалькімі гадамі ў Югаславіі?

Былі тры аснаўныя акалічнасьці, што дазволілі Ціту збунтавацца супраць Масквы й выламацца з пад ейнае ўлады: 1. Гэта сталася тады, калі сатэлітныя краіны, а перадусім Югаславія, знаходзіліся яшчэ ў пачаткавай фазе саветызацыі й калі, у сувязі з гэтым, нацыянальныя сілы гэтых краінаў мелі яшчэ вырашальнае значэньне. 2. Югаславія падчас апошняй вайны была саюзнай дзяржавай і дзеля гэтага Саветы не маглі ў ей трымаць у той час сваей акупацыйнай арміі. Праўда, саюзнымі дзяржавамі была Польшча й Чэхаславаччына, але яны ляжалі на дарозе да акупаваных Саветамі варожых у вайне краінаў (Усходняя Нямеччына й Аўстрыя), дзеля чаго пад гэтым прэтэкстам Савецкі Саюз ад самага пачатку трымаў у Польшчы і Чэхаславаччыне свае вайсковыя гарнізоны. 3. Геаграфічнае палажэньне Югаславіі, якая толькі на нявялікай часьці сваей тэрыторыі мяжавала зь дзяржавамі савецкага блёку, а на астальной тэрыторыі зь дзяржавамі заходняга сьвету, вельмі спрыяла гэнаму вызваленьню з пад уплываў Крамля.

Такіх спрыяльных абставінаў, якія ў той час мела Югаславія, ня мелі й ня маюць іншыя краіны савецкага блёку. Праведзеная дагэтуль саветызацыя гэтых краінаў, трыманьне ў іх ня толькі савецкіх ваенных адзінак, але й пааб-саджваньне ўсіх ключовых становішчаў у мясцовай арміі й паліцыі сваімі людзьмі, выключаюць усякую думку аб нейкім рэжымным бунце ці ўрадавым пераvароце. Бо хто меў-бы рабіць гэткі бунт, прыкладам, у Польшчы? Ці ўспомненыя амэрыканцы спадзяюцца, што зробіць гэта Ракасоўскі? А таму падобнае абнадзейваньне сябе й другіх, што можна адсунуць межы савецкай экспансыі да яе выходных граніцаў — да самога Савецкага Саюзу пры помачы выкліканьня ўрадавых пераваротаў і рэжымных бунтаў у сатэлітных краінах, выглядае пры сяньняшняй сытуацыі за зялезнай заслонай навет нечым непаважным.

Інакш трэба разглядаць справу камуністычнага Кітаю. Кітай з гледзішча на сваё геапалітычнае палажэньне, вялізарную тэрыторыю й нязьлічоныя масы жыхарства, што больш чымсьці ў два разы перавышаюць колькасьць жыхарства ўсяго Савецкага Саюзу, мае ўсе магчымасьці ўнезалежніцца ад Масквы, а Мао-Тсэ-Тунг стацца кітайскім Цітам. У гэтую эвэнтуальнасьць моцна верыў Захад і верыць яшчэ сяньня.

Але ўся бяда ў тым, што кітайскі дыктатар можа зрабіць гэта, але ня хоча. Мао-Тсэ-Тунг увесь час быў і ёсьць верным Сталіну. Ужо той факт, што ён ублытаўся на зычэньне Масквы ў карэйскую авантуру, якая для самога Кітая, апрача шкоды й вялізарных стратаў у людзях, нічога болей ня прыносіць, сьветчыць вымоўна аб тым, што Кітай зьяўляецца верным савецкім сатэлітам. Савецка-кітайская канфэрэнцыя ў Маскве й ейныя вынікі паказваюць на тое, што гэтую ролю неадлучнага сатэліта Масквы згадзіўся кітайскі ўрад адыгрываць і далей.

Паводля савецка-кітайскага дагавору з 1950 году Савецкі Саюз забавязаўся

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Весткі з шырокага сьвету

**Узмоцненая актыўнасьць на карэйскім фронце.** Камуністычныя войскі ў Карэі ў панядзелак 22 верасьня перасунулі пункт сваіх атакаў з заходняга на ўсходні адрэзак фронту. Наагул зазначаецца апошнімі днямі ўзмоцненая актыўнасьць камуністычных наземных сілаў. Збройныя сілы Задзіночаных Нацыяў, адбіваючы пасьпяхова наземныя атакі, праводзяць сыстэматычныя бамбардаваньні ваенных аб'ектаў у Паўночнай Карэі, папярэджваючы, як звычайна, пры помачы сьціданых з самалётаў лістовак, цывільнае насельніцтва. 21 верасьня амэрыканскія паветраныя супаркрэпасьці сьцінулі звыш 100 бомбаў на ўладжаньні забясьпечаньня на ўсход ад Панмунджон. 22 верасьня было сьцінута далейшых 100 тонаў бомбаў на ваенныя аб'екты ворага.

**Чысткі й паварот да «народнага фронту».** Прамова заступніка генэральнага сакратара камуністычнай партыі Францыі Дуклё, у якой ён паведаміў аб хуткім павароце з Масквы генэральнага сакратара францускай кампартыі Торэза, была пераладаваная такімі выражэньнямі: «супольны фронт» на базе калішняга «народнага фронту», змаганьне за «нацыянальную незалежнасьць», «дэмакратычныя свабоды», «адкінуць усё, што нас дзеліць» і г. падобнымі лёзунгамі. Выглядае, што Крэмль уважае рэвалюцыйную акцыю ў Францыі за дрэнную й пастанавіў узмоцніць камуністычныя ўплывы шляхам шуканьня супрацоўніцтва зь іншымі палітычнымі групамі, якія згадзіліся-б прыняць удзел у мантаваньні новага «народнага фронту». У сувязі з гэтым у францускай кампартыі адбываюцца чысткі, пераважна прыхільнікаў г. зв. «беспасярэдняй акцыі». У некаторых палітычных колах думаюць, што камуністыя хутка маюць распачаць тактыку фаварызаваньня Заходняй Нямеччыны й выкідаюць цяпер з партыі наважаных праціўнікаў такой палітыкі.

**Савецкі ультыматум Афганістану.** Міністар замежных справаў СССР Вышынскі вызваў у Крэмль афганістанскага амбасадара ў Маскве й даручыў яму ноту, у якой савецкі ўрад дамагаецца ў ультыматыўнай форме спыненьня рэалізацыі гаспадарскай праграмы, праводжанай пры амэрыканскай помачы ў паўночнай правінцыі краю, якая мяжуе з СССР. Адна амэрыканская фірма вядзе ў гэтай часьці Афганістану мэльярацыйныя работы. Масква баіцца, каб ЗША ня збудавалі там выпадовай базы супраць паўдзённага куыла Савецкаг Саюзу.

**Вялікабрытанія задэкляроўвае супрацоўніцтва з Эўропай.** Брытанскі міністар замежных справаў Ідэн прадлажыў 15 верасьня на канфэрэнцыі Эўрапэйскай Рады ў Штрасбургу плян супрацоўніцтва Вялікабрытаніі з эўрапэйскай супольнасьцю. Міністар Ідэн пры гэтым заявіў, што хаця Ангельшчына не заўсёды можа йсьці шляхам іншых эўрапэйскіх народаў, але яна будзе ахвотна зь імі супрацоўнічаць.

**Амэрыканскія прафсаюзы за Стывэнсонам.** 71-ы кангрэс амэрыканскага задзіночаньня прафэсыйных саюзаў АФЛ адкрыўся 15 верасьня заклікам да сваіх сяброў аддаць галасы падчас прэзыдэнцкіх выбараў на дэмакратычнага кандыдата Стывэнсона. Як ведама, іншае задзіночаньне прафэсыйных саюзаў СІО ўжо раней зьвярнулася з такім самым заклікам да сваіх сяброў. Да задзіночаньня прафэсыйных саюзаў АФЛ належыць 150 амэрыканскіх прафэсыйных саюзаў із звыш 8 мільёнамі сяброў. СІО задзіночвае 40 прафэсыйных саюзаў і налічвае 6 мільёнаў сяброў.

**Вэто — наймацнейшы савецкі аргумэнт.** Апошнімі днямі адбываюцца ў Нью Ёрку паседжаньні Рады Бясьпечнасьці, якая займаецца пытаньнямі, што знойдуцца на парадку дня генэральнай асамблеі Задзіночаных Нацыяў, якая распачнецца 14 кастрычніка ў Нью Ёрку. Між іншым, на Радзе Бясьпечнасьці абгаварваюцца пытаньні прыняцьця новых дзяржаваў у ЗН. Супраць праекту заходніх дзяржаваў у гэтай справе савецкі дэлегат Малік, як правіла, выстаўляе сваё вэто. Гэтак 16 верасьня ён ужыў права вэта супраць прыняцьця Лібіі, 18 верасьня супраць Японіі й 19 верасьня супраць прыняцьця трох індакітайскіх дзяржаваў — Ветнаму, Ляёс і Камбоджы. Амэрыканскі дэлегат Остын запатрабаваў прыняць адпаведныя меры супраць надужываньня Савецкім Саюзам права вэта.

**Дэлегацыя Ўсходняй Нямеччыны ў Бон.** 19 верасьня прыбыла ў Бон дэлегацыя парляманту Ўсходняй Нямеччыны ў складзе 5 асобаў з мэтаю даручэньня старшыні заходнянямецкага парляманту др. Эглерсу мэмарыялу ў справе задзіночаньня Нямеччыны. Усходнянямецкія камуністыя намагаліся, каб іхная візыта перайшла ў вагульнанямецкія перагаворы, але праціўны бок станоўка супраціўіўся гэтаму. Др. Эглерс згары заявіў, што пасьля прыняцьця мэмарыялу ён ня будзе мець ніякага кантакту з дэлегацыяй. Дык дэлегацыя й ад'ехала з тым, з чым прыехала.

**Ці Эгіпт станецца рэспублікай?** Эгіпская нацыяналістычная прэса Мусулманскага Брацтва, як і камуністычная, высунула дамаганьне ліквідацыі манархіі ў Эгіпце. Ворган Мусулманскага Брацтва «Аль Дава» называе каралеўскі дом у Эгіпце «бандай зладзеяў» і дамагаецца, каб урад запатрабаваў ад кажнага сябры каралеўскай сям'і выясьненьня, скуль паходзіць ягоная маемасьць. Газэта «Розэ эль Ёўсэф» паведамляе аб акцыі дзеля правядзеньня народнага рэфэрэндум, якое мела-б паказаць, ці манархія мае астацца ці не.

**Арабы байкатуюць Ізраэля.** Палітычны камітэт Арабскай Лігі прыняў адпаведныя інструкцыі ў справе гаспадарскай блякады Ізраэля. Гэтыя інструкцыі, між іншым, прадбачаць байкатаваньне тых арабскіх фірмаў, якія заложылі ў Ізраэлі свае філіі, і кантролю экспарту. Арабскія дзяржавы могуць накладаць кару сьмерці або цяжкага зьняволеньня за зламаньне гэтага байкоту.

**Тайфун зьнішчыў цэлы востраў.** Востраў на Ціхім акіяне Вэйк, які выкарыстоўваецца Задзіночанымі Штатамі ў якасьці апорнага пункту, 16 верасьня стаўся ахвяраю вельмі сільнага тайфуну й быў зьнішчаны на 90%. 750 жыхароў вострава, галоўным чынам вайсковыя й працаўнікі авіятранспартных таварыстваў, выратавалі сваё жыцьцё дзякуючы збудаванаму падчас апошняй вайны японцамі бункеру й падземнаму сховішчу бояпрыпасаў. У гэтых падзямельлях прыйшлося пераседзіць ім увесь час трываньня тайфуну.




Арабская гульня

## Акцыя задзіночаньня Эўропы

Пляны задзіночаньня Эўропы зьяўляюцца ня новымі. Ужо ў пасьлявэрсальскай Эўропе паўстаў панэўрапэйскі рух, узначалены мадзярскім палітыкам Кудэнговэ-Калергі. Але гэты рух ахоплівАў тады толькі вузкія колы інтэлігенцыі й ня выходзіў паза рамы чыста тэарэтычных канцэпцыяў. На перашкодзе ягонага разьвіцьця стаялі нацыяналістычныя тэндэнцыі паасобных дзяржаваў і грамадзянстваў.

Пасьля апошняй вайны, калі Эўропа аказалася падзеленай на дзьве часьці— паняволеную й свабодную й калі гэтая апошняя апынулася пад ціскам эканамічных супярэчнасьцяў і пад загрозай ваеннай агрэсыі з Усходу, ідэя задзіночанай Эўропы аказалася поўнасьцю насьпелай. Гэтага задзіночаньня вымагаюць тры аснаўныя фактары міжнароднага жыцьця: стратэгічна-абаронны, палітычны й гаспадарскі. Парэзаная на большыя й меншыя дзяржавы Заходняя Эўропа вымагае цясьнейшага задзіночаньня й узаемнага супрацоўніцтва ў кажнай з названых галінаў, патрабуе ператварыцца ў суцэльны арганізм, здольны да гаспадарскага праспэраваньня й абароны.

Справа эўрапэйскага задзіночаньня гэтымі днямі стаіць на парадку дня двух канфэрэнцыяў, што адбываюцца адначасна ў Штрасбургу: Надзвычайнага Сабраньня Вугля й Сталі й канфэрэнцыі Эўрапэйскай Рады.

Коратка прыгледзімся, якія існуюць сяньня ворганы эўрапэйскага задзіночаньня.

У галіне абароннай творыцца г. зв. Эўрапэйская Абаронная Супольнасьць (эўрапэйская армія на падставе пляну Плевэна), да якой належаць дзяржавы пляну Шумана. Ужо падпісаны адпаведны дагавор, які яшчэ не ратыфікаваны парлямантамі зацікаўленых дзяржаваў. Дагавор прадбачыць апрычоную Раду Міністраў, супольны парлямант (87 сяброў), Выканаўчую Камісыю (9 сяброў) і собскі Трыбунал.

Над палітычным задзіночаньнем Эўропы або эўрапэйскай фэдэрацыяй працуюць сяньня дзьве міждзяржаўныя арганізацыі, якія ў дадзены мамэнт як было ўспомнена, адбываюць свае сабраньні ў Штрасбургу, францускім горадзе, які мае стацца сталіцай задзіночанай Эўропы.

У першую чаргу існуе дарадчы ворган, г. зв. Эўрапэйская Рада, якая складаецца з Камітэту Міністраў замежных справаў 15 дзяржаваў і з дарадчага Сабраньня або Парляманту, які налічвае 132 сябры, вызначаныя ўрадамі паасобных дзяржаваў.

Другой інстытуцыяй зьяўляецца Эўрапэйская Супольнасьць Вугля й Сталі, званая так-жа Монтан-Вуніяй, якая паўстала на падставе пляну Шумана, запрапанаванага яшчэ ў 1950 годзе. Да яе належыць толькі 6 эўрапэйскіх дзяржаваў: Заходняя Нямеччына, Францыя, Італія, Бэльгія, Галяндыя й Люксэмбург. Дагавор аб стварэньні гэтай міждзяржаўнай гаспадарскай вуніі ўжо ратыфікаваны парлямантамі шасьці ўспомненых дзяржаваў. Гэтая арганізацыя мае сваю Раду Міністраў, Сабраньне або Парлямант (78 сяброў) і выканаўчы ворган — «Найвышшую Калегію», зложаную з 9 сяброў.

Гэтая арганізацыя, у сваей пачаткавай аснове чыста эканамічнага характару, мае рэарганізавацца ў фэдэрацыю палітычную. Гэтак на нядаўна адбытым паседжаньні Рады Міністраў Монтан-Вуніі ў Люксэмбургу была пакліканая спэцыяльная камісыя дзеля апрацаваньня да 10 сакавіка 1953 году праекту канстытуцыі сфэдэраванай Эўропы, якая мае абыймаць 6 дзяржаваў пляну Шумана.

Цяпер-жа, як было ўспомнена, працуе ў Штрасбургу парлямант Монтан-Вуніі, зложаны з 78 сяброў — дэпутатаў парлямантаў, якія належаць ня толькі да ўрадавых партыяў, але й апазыцыяў. Гэты парлямант на прапанову рады міністраў мае апрацаваць праект палітычнай фэдэрацыі Эўропы, што пераходзіць ягоныя паўнамоцтвы, бо гэта належыць да кампэтэнцыі ня створанага яшчэ парляманту Эўрапэйскай Абароннай Су-

(Заканчэньне на 2 балоне)

# «Радаснае й шчасьлівае жыцьцё»

У сьвятле бальшавіцкай як нутранай, гэтак і вонкавай прапаганды няма ў Савецкім Саюзе наагул нешчасьлівых людзей. Усе там пад жыцьцядайнымі праменьнямі Сталінскага сонца жывуць узапраўды «радасным і шчасьлівым» жыцьцём, аб якім працоўныя капіталістычных краінаў ня могуць навет і падумаць. Там навет і катаржнікі, загнаныя ў лягеры прымусовае працы, адчуваюць над сабой «бацькаўскія клопаты» вялікага правадыра народаў. Не дарма тады, пасьля заканчэньня Беламорскага каналу, на пабудове якога працавалі сотні тысячаў зьняволеных, пачынаючы ад чорнарабочых і канчаючы на інжынерах, некаторыя зь іх за сумленую працу былі ня толькі выпушчаныя на волю, але навет узнагароджаныя ордэнамі Леніна.

Дык і ня дзіва, што ўсе працоўныя Савецкага Саюзу адчуваюць сябе ня толькі церазьмерна шчасьлівымі, але й заўсёды сустракаюць усякае савецкае мерапрыемства, усякую пастанову й распараджэньне «партии и правительства» з уздымам нябывалай радасьці. А гэтую сваю радасьць выяўляюць таксама ў своеасаблівы спосаб — у павялічэньні выдайнасьці сваей працы, у «дабравольным» прыйманьні на сябе новых забавязаньняў, у павышэньні афіцыйных нормаў працы на 150, 200 і навет 300 працэнтаў на «славу й магутнасьць вялікай сацыялістычнай радзімы». Адзін высокі камандзір чырвонай арміі, «выстаўлены» кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савету БССР ў 1940 годзе работнікамі гораду Навагрудку, на перадвыбарным мітынгу, між іншым, сказаў: «— У нас так: Сталин сказал, — народ сказал, и наоборот, народ сказал — Сталин сказал». Таму зразумела, што кажны новы ў Савецкім Саюзе закон, кажнае новае мерапрыемства, адным словам усё тое, што «Сталин сказал», мусяць успрыймаць працоўныя зь вялікім энтузыязмам, бо ўсё гэта сам «народ сказал».

Але як узапраўды выяўляецца гэтая «радасьць» і «ўздым» народу ў дачыненьні да ўсякіх антынародных мерапрыемстваў, вельмі вымоўна можа сьветчыць спосаб рэакцыі гэтага-ж народу на апошняе распараджэньне аб скліканьні на 5 кастрычніка 19-га зьезду камуністычнай партыі. Уся савецкая прэса цяпер аж захлынаецца ад выяўленьня гэтае народнае «радасьці» й «удзячнасьці» ўсіх працоўных камуністычнай партыі й Сталіну за скліканьне гэтага зьезду, быццам-бы зьезд гэты меў стварыць узапраўдны рай на цэлай аднэй шостай. На заводах, прадпрыемствах, у калгасах і ўстановах умысловае працы ўсе працоўныя, гнаныя нейкім незразумелым інстынктам, самі зьбіраюцца на мітынгі, самі бяруць на сябе непасільныя забавязаньні, незразумелыя ў дэмакратычных умовах жыцьця, проста перасьцігаюцца ў запэўненьнях аб перавыкананьні й так высокіх нормаў працы, — і ўсё гэта, ў доказ асаблівай удзячнасьці бальшавіцкай партыі за тое вялізарнае дабрадзейства, што яна ўзяла й пастанавіла склікаць свой зьезд.

Перад намі толькі чатыры нумары менскай камуністычнай «Зьвязды»: за 24, 26, 27 і 28 жнівеня 1952 году. У кажным зь іх на першай балоне, пад агульнымі крыклівымі загалоўкамі — **«Працоўныя савецкай Беларусі сустракаюць XIX зьезд партыі новымі вытворчымі посьпехамі», «Паведамленьне аб скліканьні XIX зьезду ВКП(б) выклікала вялізарны палітычны ўздым беларускага народу», «Новымі працоўнымі посьпехамі сустракае савецкі народ XIX зьезд партыі», «Новымі працоўнымі перамогамі сустракае беларускі народ XIX зьезд ВКП(б) і XX зьезд КП(б)Б»,** знаходзім цэлы рад карэспандэнцыяў з паасобных гарадоў, раёнаў, прадпрыемстваў і калгасаў Беларусі аб тым, зь якой нявымоўнай радасьцю й пачуцьцём запраўднага шчасьця сустракае беларускі народ гэты партыйны зьезд. Хаця характар такіх карэспандэнцыяў вельмі добра ведамы нашым суродзічам зь нядаўнага яшчэ мінулага, калі й іх грэла Сталінскае сонца, але ўсё-ж такі варта наглядна яшчэ раз сабе прыпомніць увесь той жахлівы стан нячуванага нявольніцтва, у якім сяньня мучыцца беларускі народ.

Дык вось як сустрэлі працоўныя Беларусі вестку аб скліканьні партыйнага зьезду:

**1. Гомель:** «З пачуцьцём бязьмежнай любові да сваей бальшавіцкай партыі сустрэлі працоўныя вобласьці паведамленьне аб скліканьні XIX зьезду ВКП(б) ... Работнікі глыбока натхнёныя велічнымі лічбамі праекту дырэктываў XIX зьезду партыі па пятаму пяцігодняму пляну разьвіцьця СССР на 1951-52 гады»...

**2. Мазыр:** «Зь вялізарным уздымам сустрэлі працоўныя гораду пастанову ЦК ВКП(б) аб скліканьні XIX зьезду партыі...»

**3. Берасьце:** «Новую хвалю сацыялістычнага спаборніцтва выклікала паведамленьне ЦК ВКП(б) аб скліканьні чарговага XIX зьезду нашай партыі».

**4. Менск, тонкасуконны камбінат:** «Зь вялікім уздымам сустрэў калектыў заводу апублікаваньне ў друку праекту дырэктываў XIX зьезду партыі па пятаму пяцігадоваму пляну разьвіцьця СССР на 1951-52 гады. Велічныя лічбы далейшага разьвіцьця сацыялістычнай эканомікі натхняюць рабочых, інжынераў і тэхнікаў на новыя працоўныя посьпехі...»

**5. Горадзень:** «Зь вялізарнай радасьцю сустрэлі працоўныя вобласьці паведамленьне аб скліканьні 5 кастрычніка чарговага XIX зьезду ВКП(б). Работнікі, работніцы, інжынерна-тэхнічныя работнікі, служачыя, калгасьнікі, савецкая інтэлігенцыя выказваюць пачуцьцё бязьмежнай любові да бальшавіцкай партыі й вялікага Сталіна — натхніцеля й арганізатара нашых перамог, сваё жаданьне працаваць з патроенай энэргіяй над выкананьнем новага пяцігадовага пляну...»

**6. Мірскі раён, калгас «Перамога»:** «Пастанову ЦК ВКП(б) аб скліканьні XIX зьезду ўсесаюзнай камуністычнай партыі хлебаробы нашай сельгасарцелі адзначаюць яшчэ больш настойлівай барацьбой за ўсебаковае разьвіцьцё й далейшы росквіт арцельнай гаспадаркі...»

**7. Браслаў:** «Пастанова ЦК ВКП(б) аб скліканьні чарговага зьезду ВКП(б) выклікала новую хвалю працоўнага й палітычнага ўздыму сярод працоўных гораду й раёну...»

**8. Ваўкавыск:** «Вестка аб скліканьні зьезду ВКП(б) выклікала новы працоўны ўздым на ваўкавыскім цэмэнтным заводзе „Перамога"...»

**9. Бабруйск:** «З высокім вытворчым і палітычным уздымам сустрэлі працоўныя вобласьці паведамленьне аб скліканьні XIX зьезду ВКП(б)...»

**10. Наваградак:** «Пастанова ЦК ВКП(б) аб скліканьні XIX зьезду партыі выклікала ў калектыве шклозаводу „Нёман" новы працоўны й палітычны ўздым...»

Із 27 карэспандэнцыяў, зьмешчаных у чатырох успомненых нумарох «Зьвязды», мы выбралі зусім прыпадкова толькі 10 і прывялі па аднаму — двух сказах, якімі пачынаецца кажная карэспандэнцыя. Але й астальныя 17 нічым ня розьняцца ад гэтых: усюды працоўныя скліканьне партыйнага зьезду «сустрэлі зь вялізарным працоўным і палітычным уздымам», або іншы варыянт таго самага — «пастанова аб скліканьні XIX зьезду партыі выклікала вялізарны працоўны й палітычны ўздым». Пасьля такіх шаблённых заяваў ідзе далей кароткая справаздача аб мітынгах працоўных і ў кажнай зь іх, як правіла, цытуюцца словы нейкага работніка, звычайна «перадавіка», «ударніка» або «стаханаўца» як, прыкладам, наступныя:

**1. Барысаўскі дрэваапрацоўчы камбінат «Камінтэрн»:** «Стаханаўка тарнага цэху Зінаіда Лохіна заявіла: — Велічная праграма сацыялістычнага будаўніцтва натхняе нас на новыя працоўныя посьпехі. Мы будзем працаваць яшчэ лепш, каб наблізіць сьветлую будучыню чалавецтва — камунізм. У чэсьць прадстаячага зьезду я станаўлюся на стаханаўскую вахту й даю слова штодзённа выконваць норму 200 і больш працэнтаў...»

**2. Менскі станкабудаўнічы завод імя Кірава:** «Стары работнік заводу лепшы растачнік тав. Пугач сказаў: — Мы ганарымся нашай роднай бальшавіцкай партыяй, якая вядзе нас па шляху да камунізму. Мы ганарымся тым, што наша любімая радзіма стала яшчэ больш прыгожай і магутнай. Хочацца працаваць яшчэ лепш. Я забавязваюся да 5 кастрычніка выканаць дзьве гадавыя нормы й даваць прадукцыю толькі выдатнай якасьці...»

**3. Целеханаўская НТС:** «Перадавы мэханізатар Павал Кананові ч у гутарцы з агітатарам сказаў: — Дырэктывы па пятаму пяцігадоваму пляну — новае праяўленьне вялізарных клопатаў нашай партыі аб савецкім народзе... Зь сяньняшняга дня я станаўлюся на стаханаўскую вахту й абавязваюся да 5 кастрычніка завяршыць выкананьне трэйцяй гадовай нормы...»

І гэтак больш менш ува ўсіх карэспандэнцыях. На заканчэньне мітынгу ўсе работнікі, на прапанову падобных «стаханаўцаў», «лепшых растачнікоў» ці «перадавых мэханізатараў», ня толькі «дабравольна», але й з «пачуцьцём нявымоўнай радасьці» й «удзячнасьці роднай бальшавіцкай партыі», бяруць на сябе ў чэсьць XIX партыйнага зьезду розныя непасільныя забавязаньні. Вось некалькі прыкладаў:

**1. Менскі станкабудаўнічы завод імя Кірава:** «На стаханаўскую вахту ў чэсьць XIX зьезду партыі стаў калектыў трэйцяга мэханічнага цэху. У вапошнія дні цэх сыстэматычна перавыконвае сутачныя заданьні...»

**2. Барысаўская папяровая фабрыка «Прафінтэрн»:** «Натхнёныя праектам дырэктываў па пятаму пяцігадоваму пляну разьвіцьця СССР на 1951—1955 гады, рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі й служачыя фабрыкі ўзялі новыя павышаныя абавязацельствы. Калектыў нашай зьмены абавязаўся да 5 кастрычніка завяршыць 10-месячную вытворчую праграму й шляхам зьніжэньня сабекошту прадукцыі заканоміць сотні тысячаў рублёў...»

**3. Менскі аўтамабільны завод:** «Тысячы рабочых менскага аўтамабільнага заводу сталі на стаханаўскую вахту ў чэсьць XIX зьезду ВКП(б). У гэтыя знамянальныя дні больш 1.500 камсамольцаў даюць ня менш паўтары нормы за зьмену. Выпрабавальнікі паліўных бакаў брыгады Паўла Атрашчэнкава чацьвёрты дзень выконваюць за зьмену па тры нормы. Не адстае ад іх і брыгада зборшчыкаў ветравога акна аўтамашыны, якой кіруе Фёдар Рок...»

**4. Торфзавод «Рэдкі Рог» Бабруйскага раёну:** «Новымі вытворчымі посьпехамі рашылі азнамянаваць скліканьне XIX зьезду ВКП(б) тарфянікі. Калектыў торфпрадпрыемства „Рэдкі Рог" адным зь першых у вобласьці завяршыў сэзонны плян здабычы торфу й абавязаўся здабыць дадаткова 10 тысяч тон паліва...»

Ня трэба быць моцна граматным чалавекам, каб заўважыць, што калі-б навет адзін чалавек пісаў усе гэтыя й сотні ім падобных карэспандэнцыяў, дык і ён не патрапіў-бы ў кажнай зь іх гэтак даслоўна паўтарацца. Уклад і размеркаваньне зьместу кажнай карэспандэнцыі, іхны стыль, тыповая бальшавіцкая фразэалёгія й навет паасобныя словы сьветчаць, што яны пісаныя паводля агульнага ўстаноўленага шаблёну й ня выражаюць ня толькі думак працоўных, але й думак іхных аўтараў. А браныя работнікамі «дабравольныя» забавязаньні аб перавыконваньні працоўных нормаў — гэта ня што іншае, як абавязкавае пляскаsuccessне ў далоні або ціхае маўчаньне, што ўжо можа быць небясьпечным, на прапанову загадзя праінструктаванага партыйнымі ворганамі прамоўцы на сходзе. Але навонкі гэта найлепшы доказ, што ў «самай дэмакратычнай» савецкай краіне працоўныя «дабравольна» й зь «вялізарным уздымам» ідуць на спатканьне дырэктывам «партии и правительства», ня гледзячы на тое, што гэтыя дырэктывы ўзьдзяваюць ім на шыю новае непасільнае ярмо.

Бо ўсё тое «шчасьце», якое прыносіць новая пяцігодка, што мае быць зацьверджаная на партыйным зьезьдзе, і якая выклікае ў працоўных масах Савецкага Саюзу «вялізарны працоўны й палітычны ўздым», гэта павялічэньне прадукцыі, у першую чаргу ваеннай, на 70% і павышэньне прадукцыйнасьці й так ужо непасільнай вытворчай працы савецкага работніка й калгасьніка на 50%. Іншымі словамі, савецкія працоўныя цешацца зь нябывалым уздымам і выказваюць нязьмерную ўдзячнасьць Сталіну за сваё далейшае закабаленьне, за павялічэньне сваей галіты, за яшчэ большую эксплятатацыю іхнае нявольніцкае працы.

На Захадзе прывыклі прыраўноўваць Сталінскую дыктатуру да дыктатуры Гітлераўскай і цьвердзіць, што ў Савецкім Саюзе пануе такое самае нявольніцтва й прыгнечаньне народных масаў, як і ў Нямеччыне за часоў Гітлера. Але-ж нічога падобнага! Ня можа быць нічога больш несправядлівага, як такое параўнаньне. Памінаючы ўжо зусім іншы ступень паняволеньня, пры Гітлераўскай, як і пры кажнай іншай ведамай у гісторыі дыктатуры кажны мог пасыўна адносіцца да згары накінутых супраць ягонай волі распараджэньняў і іх выконваць, бо рабіць гэта мусіў. Пры Сталінскай-жа дыктатуры людзі змушаныя ня толькі выконваць усё тое, чаго ад іх жадае камуністычная партыя, ня толькі рабіць гэта звыш сваіх сілаў і магчымасьцяў, але і ўсё яшчэ «дабравольна» перавыконваць ды публічна маніфэставаць сваю радасьць із собскага няшчасьця ды дзякаваць за гэта Сталіну. Ці-ж можа тады быць большы маральны зьдзек над душой чалавека? І гэта якраз і зьяўляецца аднэй з найбольш характэрных рысаў Сталінскай дыктатуры, гэта найлепш характарызуе найбольш залганы, пэрфідны й жахлівы запраўдны зьмест «раднасага й шчасьлівага жыцьця» Савецкага Саюзу.

**Ст. Крушыніч**

---

ад якога ўзноў прыметнік **колькасны** (= м. количественный, п. ilościowy).

### Цьвіцець (цьвісьці), цьвет і красаваць, краса; краска.

Усе расьліны, каб даць плод, мусяць быць заплодненыя. Запладненьне настае ў часе **цьвіценьня,** або **красаваньня.** Дзеравы (клён, ліпа, бяроза й інш) **цьвітуць** і **цьвітучы** маюць **цьвет.** Збожжа — жыта, пшаніца, ячмень, авёс — **красуе** (па мясцоваму, прыкладам, у Лідчыне, «расуе») і **красуючы** мае **красу** (па мясцоваму «расу»). Травы (прыкладам мятліца) красуюць. Лён і стручковыя — гарох, боб, соя, чачэўка і іншыя — цьвітуць. Але гуркі — «гарэць».

Ёсьць два дзеясловы — **цьвіцець** і **цьвісьці** (заўсёды зь **і** па **в,** хоць «цьвет», пр. «сьвет», але «сьвітае»), ад «цьвісьці» ў цяперашнім часе ёсьць побач формы — **цьвіту, цьвіцеш** і г. д. і **цьвію, цьвіеш** і **г. д.**

**Красавацца, пакрасавацца** мае значэньне «вельмі добра мецца» і адказвае 1) м. «процветать», п. kwitnać. **Красуецца ў жыцьцю, чаго яму не стае? Пакрасаваўся на сьвеце. Красуецца ў чужым дабру.** (Усе прыклады з НСЛ. 252); 2) м. «щеголять». **Красуецца ў чужой адзежынцы.** Тм.

Дзеля таго й **красаваньне** значыць ня толькі, што некаторыя расьліны красуюць, але яшчэ адказвае м. «процветание», «расцвет», п. rozkwit. **Дзявоцкае красаваньне. Не вялікае красаваньне за ім, хоць ён і багаты.** (Абодвы прыклады з НСЛ. 252).

Цяперака ў народнай мове ёсьць два словы — «краска» й «кветка», каторыя часта маюць тое самае значаньне.

**Краска,** зьменш. **красачка** пашырана па ўсей Беларусі. Запісанае гэтае слова між іншым ў ВІЦЕБСКУ; АР.; ВОЙШ; ЧАРНІГАЎШЧЫНЕ (РСБ. 146; ПНЗ), у ДР., у СЦ. Прыклады: **Прыгожыя краскі.** НСЛ. 251; **у самую касавіцу (сонца, краскі, чырканьне косаў).** ЗСД. 390; **Зарваў красачку дый пайшоў.** ПНЗ. 40.

Дзе кажуць «кветка», там старыя кажуць яшчэ «краска». Гэтак, прыкладам, у АР. маладыя звычайна кажуць «кветка», але старыя «краска». Гэта паказвае, што «краска» слова старшае ў нашай мове й чыста беларускае. Аб яго беларускай чысьціні сьветчыць яшчэ й тое, што мовы суседнія гэтага слова ў даным значаньні ня знаюць. Зацемлю гэтта, што ўсе краскі цьвітуць, а не красуюць.

Што да «кветка», дык трэба зацеміць, што гэтае слова ў некаторых мясцовасьцях мае яшчэ значэньне «ветка». Гэтак, у АР. кажуць «кветка аўсу, авёс квяцісты», тымчасам у Кушлянах ля Жупран таго-ж павету кажуць «ветка аўсу», «авёс вацісты». Так-жа Насовіч у сваім слоўніку на б. 233 падае «кветка» ў значаньню «ветка» **(Адарві кветку кляновую).** Калі яшчэ зьвернем увагу, што ў мясцовасьцях найменей падпалых пад польскі ўплыў, прыкладам ля Пархвенава й Докшыцаў Вял. пав., кажуць «квяты», значыцца ўжываецца чыста польская форма гэтага слова, бо зьмена не пасьпела яшчэ стацца, дык трэба прыйсьці да вываду, што «кветка» паўстала скрыжаваньнем п. kwiat, - белар. «цьвет», што дало «квет» (гэтую форму падае НСЛ. 233), а пад уплывам жаноцкага роду ў «краска» паўстала далей «кветка».

Значыцца, чыста беларускае слова ёсьць «краска», і яно павінна ўжывацца ў літаратурнай мове.

Проці «кветка» прамаўляе яшчэ старая асаблівасьць нашае мовы — пераход спачатнага **кв** перад **«і» ў цьв.** Ведама, так-жа будзе **цьвітучы,** а ня «квітучы».

**(Канец)**

---

# Новае амэрыканскае аружжа

Толькі цяпер вайсковая цэнзура дазволіла падаць да ведама, што 1-га верасьня сёлета было амэрыканцамі ўжытае ў Карэі дагэтуль няведамае яшчэ аружжа — самалёт-бомба, кіраваная пры помачы радыя, якая мае вельмі вялікую сілу ўзрыву. У гэты дзень з амэрыканскага авіяносца «Боксэр» былі выпушчаныя кіраваныя пры помачы радыя самалёты зь сільным узрыўным матарыялам. Авіяносец знаходзіўся на паўночна-карэйскіх водах у вадлегласьці 150 міляў у простай лініі ад мэты, якой былі канцэнтрацыя камуністычнай супрацьлётніцкай артылерыі, электрастанцыя, мост і ўезд у тунэль.

Для кіраваных радыям самалётаў-бомбаў былі ўжытыя перастарэлыя нырающыя самалёты тыпу «Гэлькат». Гэтыя самалёты бязь лётніка, але з «тэлевізыйнымі вачыма» й радыёвай апаратурай былі выкінутыя з авіяносца. Былі яны кіраваныя радыёвымі хвалямі зь іншага самалёту «Скайдрэйпэр», які знаходзіўся далёка ад самалёту-бомбы, будучы недасягальным для варожай зэнітнай артылерыі. Самалёт-бомба вёз з сабой 2 000 фунтаў узрыўных матарыялаў і метка пападаў у мэту.

Лёт самалёту-бомбы быў абсэрваваны з авіяносца на радарных экранах. Ён прыпамінае нямецкія ўзрыўныя ракеты «V-1», але калі лёт апошняй быў рэгуляваны гадзіньнікавым мэханізмам на зямлі перад выстралам, дык амэрыканскі радыёвы самалёт зьяўляецца кіраваным на працягу ўсяго лёту другім самалётам.

Амэрыканская газэта «Дэйлі Ньюс», што выходзіць у Лёс Энджэлес, паведамляе, што авіяносныя хвабрыкі ў паўдзённай Каліфорніі ад даўжэйшага часу нагрмаджваюць у сваіх складах навачасныя самалёты-бомбы, кіраваныя радыям. Камандаваньне амэрыканскага ваеннага флёту падало да ведама, што мае ўжо ў сваім распараджэньні адзінаццаць тыпаў узрыўных бомбаў, кіраваных радыям, у параўнаньні зь якімі ўжытыя ў Карэі самалёты-бомбы тыпу «Гэлькат» належаць да найбольш перастарэлых і ў будучыні ня будуць ужывацца. Пры ўзрыве такой бомбы нішчыцца, зразумела, і самалёт, але за тое ня гіне лётнік, пры гэтым ейная ўзрыўная сіла вельмі вялікая й пападаньне зусім пэўнае.

Агульна ўважаецца, што, пасьля выбуху першай атамнай бомбы ў Гірашыме ў 1945 годзе, дзень 1-га верасьня 1952 г., калі ўпяршыню былі ўжытыя ў Карэі кіраваныя радыям самалёты-бомбы, распачынае новую эру ў ваеннай тэхніцы.

---

### НАШ СУРОДЗІЧ ВЫНАХОДНІКАМ ЭЛЕКТРЫЧНАЙ ЛЯТАРКІ

Польская газэта «Дзеньнік для Вшысткіх» за 29 ліпеня падала наступную вестку:

«Ручныя электрычныя лятаркі зьяўляюцца сяньня агульна ўжыванымі ў розных формах і прыносяць нам вялікія прыслугі. Вынаходнікам іх ёсьць Акіба Гаровіч зь Менську на Беларусі. Прыехаў ён у Амэрыку ў 1890 годзе, уцякаючы перад рэлігійным перасьледваньнем. У Амэрыцы ён зьмяніў прозьвішча на Конард Губэрт і стаўся вынаходнікам многіх электрычных прыладаў, між іншым, і малых батарэяк і лямпак, якія далі пачатак сяньняшнім электрычным лятаркам. Калі памёр у 1928 годзе, багаты ўжо Губэрт запісаў тры чацьвертыя даходу із сваіх многіх прадпрыемстваў на мэты дабрадзейныя, рэлігійныя, мэдыцынскія й выхаваўчыя».

---

**УВАГА! УВАГА!**

**Выйшла з друку й ужо прадаецца**

**паэма**

**Якуба КОЛАСА**

**„Новая Зямля"**

ЯКУБ КОЛАС (КАНСТАНЦІН МІЦКЕВІЧ)

НОВАЯ ЗЯМЛЯ (ПАЭМА)

МЮНХЭН - 1952 ВЫДАВЕЦТВА „БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"

### ЗЬМЕНЕНА ЦАНА КНІЖКІ

У сувязі з тым, што друк і брашуроўка «Новай Зямлі» каштавалі трохі танай, чымсьці мы раней аблічалі, **канчальныя цэны за «НОВУЮ ЗЯМЛЮ» для паасобных краінаў наступныя:**

1. У ЗША — 3 даляры,
2. У Канадзе — 3 даляры,
3. У Аўстраліі — 15 шылінгаў,
4. У Аргентыне — 15 пэзо,
5. У Ангельшчыне — 10 шылінгаў,
6. У Францыі — 400 франкаў,
7. У Бэльгіі — 150 франкаў,
8. У Нямеччыне — 10 марак,
9. Для безработных беларусаў Нямеччыны — 2 маркі.
10. У іншых краінах раўнавартасьць 3 амэрыканскіх даляраў.

Перасылка аплачваецца дадаткова.

Выпісваць у Нямеччыне трэба з Адміністрацыі «Бацькаўшчыны», а ўва ўсіх іншых краінах паводля наступнага адрасу:

Paul Urban, 19, Place Hoover,
Louvain, Belgique.

**Кніжка на павер ня высылаецца.**

**Беларусам з паза Нямеччыны радзім, дзеля тэхнічнага ўспраўненьня, найлепш выпісваць «НОВУЮ ЗЯМЛЮ» цераз Прадстаўніцтвы «Бацькаўшчыны» ў дадзенай краіне, перасылаючы на іх належнасьць. Прадстаўніцтвы-ж з свайго боку атрымаюць адпаведную колькасьць эгзэмпляраў кніжкі пасьля надасланьня ўсей належнасьці на адрас нашага фінансавага прадстаўніка ў Бэльгіі.**

**«НОВАЯ ЗЯМЛЯ» — гэта адзін з найвыдатнейшых твораў беларускае літаратуры й яна павінна быць настольнай кнігай кажнага беларуса.**

Кніжка надрукаваная на добрай паперы, з прыгожай вокладкай і абыймае 249 + XVI балонаў.

---

### ЦАНА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ

1. ЗША . . . . . . . 15 цэнтаў
2. Канада . . . . . . . 15 цэнтаў
3. Вялікабрытанія . . . 1 шылінг
4. Францыя . . . . . . . 40 франкаў
5. Аўстралія . . . . . . 1 шылінг
6. Аргентына . . . . . . 2 пэзо.
7. Бэльгія . . . . . . 5 франкаў

Ува ўсіх іншых краінах раўнавартасьць 15 цэнтаў ЗША за 1 эгзэмпляр.